## Нямецкіе апавешчэньня:

**1.V. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Пры Аррас і наабапол Скарп—артылерыйская бітва с пераменнай сілай.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На Эн і ў Шампані далей трывала артылерыйская бітва. Паабедзі між Прон і Обэрів сьвежые францускіе дывізіі пачалі ізноў штурмаваць. Мы утрымалі ўсе свае пазыціі. У ворагоў—цяжкіе страты.

---

Учора збіты 22 самалёты і 5 лятучых шароў.

**Усходні тэатр:**

На многіх адрэзках фронту агонь расейскай артылерыі вызваў з нашаго боку належны адказ.

**2.V. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На полі бітвы пры Аррас адбіты наступленьня англічан пры Ленс, Монши і Фонтэн.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пасьля вельмі востраго агня на раніцы французы наступалі пры Сэрні і Эн, але былі адбіты. Учора на ўсім фронці узняўся сільны агонь артылерыі. Пры Сілері ўзяты 50 палонных. У бітвах у Шампані 30 красавіка ўзяты больш за 400 палонных.

---

У бітвах на паветры ворагі утрацілі 14 самалётаў. Вольфф збіў сваіх 28 го і 29-го ворагоў, Шэффэр—24-го і 25-го.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* На некалькіх адрэзках крапчэў расейскі артылерыйскі агонь, а з гэтай прычыны і наш.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* У пагранічных гарах Молдавіі расейскіе батальёны пасьля сільнаго агня атакавалі нашы пазыціі на поўначы ад даліны Ойтоса.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Апрыч ужо апублікаваных удач падводных лодак у красавіку ў Англіцкім канал, ў Атлянтыцкім акіяні і Паўночным моры ізноў затоплено тарговых параходаў на 112 000 тонн агульнай ёмкасьці.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Некалькі нашых марскіх самалётаў атакавалі 1 мая тарговые параходы ворагоў у усьці Тэмзы і зьнішчылі параход ёмкасьцю на 3.000 тонн. Адзін з нашых самалётаў не вярнуўся назад. Яго трэба лічыць пагібшым.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар Язэп Салавей.